

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!





# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 17 (118) | 20 лістапада 1931 г. | № 17 (118)

## ЗЬМЕСТ



---

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### 80. Пра зварот на работу па спэцыяльнасьці спэцыялістаў, якія скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы і працуюць не па спэцыяльнасьці.



У адпаведнасьці з пастановай НК РСІ і Прэзыдыуму ЦСПСБ за 21 кастрычніка г.г. „Аб умовах працы інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу“ (газ. „РАБОЧИЙ“ за 31/X-31 г. № 257), НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Адкамандыраваць для работы па спэцыяльнасьці спэцыялістаў, якія скончылі ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы не раней 1 мая 1929 г. і якія ў сучасны момант працуюць не па спэцыяльнасьці, атрыманай у навучальнай установе.

2. Адкамандыраваньню падлягаюць усе спэцыялісты (інжынэрна-тэхнічныя, аграномічныя, вэтэрынарныя і іншыя работнікі), якія зьяўляюцца ці маюць права састаяць членамі ІТР, незалежна ад таго:

а) ці скончыў ён навучальную установу ў БССР, ці ў інш. саюзнай рэспубліцы;

б) ці быў ён закантрактаваны якой-небудзь гаспадарчай арганізацыяй ці не.

УВАГА. 1) Не падлягаюць адкамандыраваньню тыя спэцыялісты, якія займаюць выбарныя пасады ў савецкіх, партыйных і прафсаюзных арганізацыях.

2) Гэта пастанова не пашыраецца на асоб, скончыўшых мэдычныя, пэдагагічныя і прававыя ВНУ.

3. Усе прадпрыемствы і ўстановы, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, абавязаны ў дэкадны тэрмін з дня апублікаваньня гэтай пастановы прадставіць у органы працы свайго раёну сьпісы працуючых у іх асоб, якія падлягаюць адкамандыраваньню, паводле арт. 1 гэтае пастановы.

У сьпісах паказваецца:

а) назва і адрас прадпрыемства ці ўстановы;

б) якому гаспадарчаму аб'яднаньню ці наркамату падпарадкавана;

в) прозьвішча, імя і імя па бацьку спэцыяліста;

г) год нараджэньня;

д) партыйнасьць;

е) якую навучальную ўстанову і калі скончыў;

ж) дзе, калі і колькі часу і на якой пасадзе працаваў;

з) хатні адрас спэцыяліста.

4. Пэрсанальны адбор і разьмеркаваньне на работу асоб, якія падлягаюць адкамандыраваньню, робіцца камісіяй пры раённых або гарадзкіх органах працы у складзе: прадстаўніка органа працы (старшыня камісіі), мясцовай гаспадарчай арганізацыі (па вызначэньні РВК і гарсавету) і райпрафсавету (РайМБІТ'а).

5. У выпадку, калі падлягаючы адкамандыраваньню спэцыяліст ня можа быць скарыстаны ў раёне яго пражываньня, дык зьвесткі аб такіх спэцыялістах павінны быць паданы ў НКП. Пэрсанальны адбор і разьмеркаваньне гэтых асоб робіцца камісіяй пры НК Працы БССР.

6. Асобы, якія атрымалі прызначэньне на работу, абавязаны не пазьней 5-ці дзён пасьля атрыманьня прадпісаньня, зьявіцца к месцу прызначэньня. Прадпрыемствы і ўстановы абавязаны ў той-жа тэрмін аслабаніць іх ад работы і зрабіць з імі поўны разьлік (бяз выплаты выхадной дапамогі).

Зарплата работнікам, якія своечасова зьявіліся да месца прызначэньня, выплачваецца з дня звальненьня з ранейшага месца работы.

7. Уся работа па звароту паказаных у гэтай пастанове спэцыялістаў павінна быць скончана не пазьней 1|XII-1931 г.

8. Адказнасьць за выкананьне гэтай пастановы ў тэрмін ускладаецца на раённых і грамадзкіх інспэктароў працы і кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў.

9. Органы працы павінны не пазьней 1|XII-1931 г. прадставіць у НК Працы БССР зьвесткі аб колькасьці спэцыялістаў, выяўленых і накіраваных на работу па спэцыяльнасьці.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Ф. Пушчын.**

9 лістапада 1931 г.
№ 48.

**81. Пра парадак вучоту і эксплёатацыі вэнтыляцыйных установак у прамысловых прадпрыемствах.**

У мэтах арганізацыі вучоту вэнтыляцыйнай гаспадаркі ў прамысловасьці, лепшага скарыстоўваньня маючыхся і будуючыхся вэнтыляцыйных установак, забясьпечаньня іх бесьперапыннай здавальняючай працы ў час дзейнічаньня прамысловых прадпрыемстваў, НК Працы, па ўзгадненьні з ВСНГ і НКСнабам БССР, пастанаўляе:

1. На кожную паасобную вэнтыляцыйную ўстаноўку, выкананую па аднаму праекту, прадпрыемства абавязана завесьці пашпарт, у які заносяцца наступныя зьвесткі:

а) апісаньне санітарна-тэхнічнага становішча і бягучых зьмен канструкцыі і сыстэмы вэнтыляцыйнай устаноўкі;

б) даныя бягучай рэгулярнай эксплёатацыі вэнтустаноўкі;

в) вынікі пэрыядычнага кантролю і дасьледваньня эфэктыўнасьці вэнтустановак і прапановы органаў працы па пытаньні іх эксплёатацыі.

Форма пашпарта і інструкцыя па яго запаўненьню прыкладаецца асобна (гл. дадатак № 1).

2. Адказнасьць за дзейнічаньне вэнтустаноўкі на прадпрыемстве ўскладаецца на загадчыка па тэхніцы бясьпекі. Для непасрэднага абслугоўваньня вэнтустаноўкі на прадпрыемствах павінна быць вылучана дастатковая колькасьць рабочых адпаведнай кваліфікацыі.

3. Адміністрацыя прадпрыемства павінна паклапаціцца аб падвышэньні спэцыяльнай кваліфікацыі як асоб адказных за дзейнасьць вэнтустановак, так і рабочых па непасрэднаму абслугоўваньню вэнтустановак праз камандыроўкі вызначаных асоб на адпаведныя курсы альбо праз арганізацыю такіх курсаў на прадпрыемстве.

4. На кожным прадпрыемстве павінна быць складзена падрабязная інструкцыя па эксплёатацыі і догляду за кожнай вэнтыляцыйнай устаноўкай. На ўноў пабудаваныя вэнтыляцыйныя устаноўкі паказаная інструкцыя павінна быць складзена неадкладна пасьля сканчэньня пабудовы вэнтыляцыйнай устаноўкі і дасьледваньня яе работы. Гэта інструкцыя павінна мець падрабязнае апісаньне працы вэнтустаноўкі ў розныя сэзоны году і даць пэрсаналу, які абслугоўвае вэнтустаноўку, зусім яскравыя і канкрэтныя паказаньні аб спосабах рэгу-

ляваньня працы кожнага агрэгата альбо яго часткі пры розных знадворных і ўнутраных мэтэаралёгічных умовах, а таксама пры розных умовах на самой вытворчасьці для дасягненьня адпаведных тэмпэратур, вільготнасьці, чыстаты паветра ў розныя гадзіны працы прадпрыемства.

У гэтай інструкцыі таксама павінна быць вызначана разьмеркаваньне абавязкаў і адказнасьці асоб, якім даручана абслугоўваньне вэнтустаноўкі.

У інструкцыі павінны быць вызначаны тэрміны ачысткі трубаправодаў, фільтраў і інш. частак вэнтыляцыйнай сыстэмы.

Вызначаная інструкцыя павінна быць узгоднена з мясцовымі органамі працы.

УВАГА. Тыповая інструкцыя пры гэтым дадаецца (гл. дадатак № 2).

5. У выпадку, калі праводзіцца зьмена вытворчых працэсаў альбо вытворчага абсталяваньня, з якімі зьвязана дзейнасьць вэнтустаноўкі, апошняя павінна быць прыстасавана да новых умоў працы, а ў выпадку неабходнасьці павінна быць павялічана іх моцнасьць.

6. Усялякія зьмены вэнтыляцыйнага абсталяваньня і карэннага рэжыму працы вэнтустаноўкі могуць быць праведзены толькі з ведама і дазволу органаў працы.

7. Усялякія зьмены рэгуліроўкі вэнтыляцыйных установак могуць рабіцца толькі з ведама і дазволу асобы, адказнай за дзейнасьць вэнтыляцыі.

8. Усялякія выпадковыя прарывы і пагоршаньні ў працы вэнтыляцыйнай установкі альбо паасобных яе частак павінны неадкладна зьнішчацца праз хуткае выпраўленьне папсаваных месц, абмен папсаваных частак.

9. Пэрыядычная ачыстка, буйны рамонт працуючых вэнтустановак павінны, па магчымасьці, праводзіцца толькі ў час перапынку ў працы прадпрыемства.

10. Пуск у ход вэнтыляцыйных установак у прам. прадпрыемстве (аддзяленьні, цэху і г. д.) павінен адбывацца не пазьней пуску ў ход прамысловага прадпрыемства. У тых выпадках, калі вэнтыляцыя прызначана таксама і для ацяпленьня, вэнтыляцыя павінна быць пушчана з такім разьлікам, каб да пачатку працы ў памяшканьнях была нармальная тэмпэратура.

11. У мэтах забясьпечаньня бесьперабойнай працы вэнтустановак апошнія пры пабудове павінны быць забясьпечаны дастатковай колькасьцю пары і электраэнэргіі. Скарыстаньне пары, электраэнэргіі і абсталяваньня, прызначанага для вэнтустановак, для іншых мэт і на шкоду нармальнага дзейнічаньня вэнтыляцыі забараняецца.

12. Аб усялякіх аварыях і выпадках, парушаючых нармальную дзейнасьць вэнтустаноўкі, адміністрацыя павінна неадкладна паведаміць мясцовым органам працы.

13. На інспэкцыю ўскладаецца абавязак сачыць за эксплёата-

цыяй вэнтустановак на прам. прадпрыемствах, а спэц. інспэкцыю абавязаць кантраляваць нармальнасьць працы вэнтустановак.

14. Асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці ва ўстаноўленым парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Узгоднена з { **ВСНГ—Каган.**
НКСнабам—адносьнік НКСнаба за 5/Х-31 г. № 50—6.

18 лістапада 1931 г.
№ 43.

**Дадатак І-шы.**

## Інструкцыя аб пашпартызацыі вэнтыляцыйных установак.

1. Пашпартызацыі падлягаюць усе вэнтыляцыйныя ўстаноўкі, выкананыя па аднаму агульнаму праекту.

2. Пад словамі: „вэнтыляцыйная ўстаноўка“ трэба разумець злучнасьць усіх вэнтыляцыйных сыстэм, агрэгатаў і паасобных вэнтылятараў, аб'яднаную адным праектам і працуючую зусім каардынавана для аздараўленьня умоў працы ў адным памяшканьні ці ў цэлай групе зьвязаных паміж сабой памяшканьняў.

3. Выходзячы з гэтага і складаецца далучаны ніжэй пашпарт вэнтустаноўкі, які складаецца з 3-х частак. Ідэя кожнай з гэтых частак заключаецца ў наступным:

Форма № 1: дае пералік усіх даных, неабходных для таго, каб склалася поўнае ўражаньне аб вэнтустаноўцы і паасобных вэнтыляцыйных сыстэмах, якія ў яе ўваходзяць.

Форма № 2: дае спэцыфікацыю па featured рознастайных прыметах паасобных элемэнтаў вэнтыляцыйных сыстэм, уваходзячых у даную вэнтустаноўку.

Форма № 3: дае характарыстыку эфэкту дзейнасьці вэнтыляцыі як у час прыёмкі, так і на працягу часу дзейнічаньня сыстэмы. Усе формы складаюць пашпарт сыстэмы.

4. Пашпарт сыстэмы складаецца у 3-х экземплярах: адзін знаходзіцца ў асобы, што сочыць за працай вэнтустаноўкі, другі—ў мясцовай санітарнай інспэкцыі, 3-ці—дасылаецца стар. Інспэктару НКПрацы.

5. Пашпарт папаўняецца вынікамі прыёмкі і дадатковых дасьледваньняў, якія заносяцца ў лісток формы № 3.

Лісток складаецца кожны раз у 3-х экзэмплярах: адзін застаецца ў пашпарце, другі застаецца ў мясцовай інспэкцыі, а 3-ці дасылаецца старш. інспэктару НКПрацы.

6. Апроч пашпарту, асоба, што абслугоўвае даную вэнтустаноўку, абавязана весьці спэцыяльны эксплёатацыйны журнал вэнтустаноўкі. Журнал складаецца ў адным экзэмпляры.

7. Журнал гэты знаходзіцца ў асобы, што абслугоўвае даную вэнтустаноўку, і падаецца ім па першаму патрабаваньню асоб, якія пра-

цуюць ў памяшканьнях, што абслугоўваюцца вэнтуастаноўкай для запісваньня скаргаў на працу вэнтустаноўкі, а таксама прадстаўнікам інспэкцыі працы для занясеньня іх заключэньняў і запатрабаваньняў па сутнасьці працы вэнтустаноўкі.

8. У заключэньнях прадстаўнікоў спэцінспэкцыі аб працы вэнтустаноўкі павінны быць наступныя даныя:

а) знадворная тэмпэратура,
б) тэмпэратура прыточнага паветра,
в) тэмпэратура паветра ў памяшканьнях,
г) становішча кляпана у заборнай адтуліны,
д) лік працуючых соплаў абвільгочваньня,
е) становішча кляпану ў калёрыфэра,
ж) становішча трубаправодаў.

9. Пашпарт вэнтустаноўкі знаходзіцца пры журнале, але прадстаўляецца выключна прадстаўнікам спэцінспэкцыі для запаўненьня дадатковага ліста і для розных даведак.

10. Адказнасьць за захаваньне пашпарта і за акуратнае вядзеньне эксплёатацыйнага журнала ляжыць цалкам на асобе, якая сочыць за працай вэнтустаноўкі.

11. Пры кожным пашпарце павінна быць прыкладзена інструкцыя аб працы вэнтустаноўкі, складзеная аўтарам праекту з усімі ўнесенымі ў яе зьменамі і дапаўненьнямі.

Запаўненьне паасобных пунктаў пашпарта павінна быць кароткім, але яскравым, даючым адказ на пастаўленае пытаньне. Для аблягчэньня складаньня пашпарта ніжэй даецца пералік паасобных адказаў, якія могуць мець месца па некаторых пунктах (за выключэньнем тых пунктаў, якія ніякіх тлумачэньняў не патрабуюць):

## У форме № 2.

п. 12. Ніжэй даем пералік найбольш часта сустракаючыхся тыпаў калёрыфэраў з паказаньнем, якія асноўныя разьмеры павінны быць паказаны ў іх апісаньні.

| Тып калёрыфэра | Асноўныя разьмеры |
|---|---|
| З гладкіх труб | Дыямэтр труб, вышыня іх і лік пасьлядоўных і паралельных радоў. |
| | Тыя-ж даныя, што і ў папярэднім выпадку, але з дакладным паказаньнем формы і разьмера рэбраў і ліку іх, прыходзячагася па 1 паг. мэтр. трубы. |
| З радыятараў | Тып і поўная вышыня радыятараў. Лік пасьлядоўных радоў і лік элемэнтаў ў кожным раду. |
| Пласьцінчаты | Тып, форма і марка. Лік паралельна і пасьлядоўна ўстаноўленых калёрыфэраў. |

п. 14. Паверхня люстэрка вадзяных выпарнікаў у кв. мэтрах. Дыямэтр і даўжыня зьмеявікоў, награваючых ваду. Лік і тып вадзяных і паравых фарсунак. Ціск у фарсунках. Габарытныя разьмеры ілюмінатара і лік зігзаабразна разьмешчаных плоскіх паверхняў.

п. 15. а) Пылаасадачныя камэры. Даўжыня шляху пры праходжаньні паветра праз пылаасадачную камэру. У выпадку ўжываньня вадзяных асадачных камэр, паказаць разьмеры люстэрка вады і вышыню паветравага слою над вадой.

б) Фільтры.

1. Матэрчатыя прапускныя фільтры (плоскія і мяшочнага тыпу), род матэрыі і сумарная паверхня яе ў кв. мэтрах.

2. Матэрчатыя фільтры датычанасьці. Тыя-ж даныя, што і ў папярэднім выпадку.

3. Прапускныя фільтры з featurenастайных матарыялаў (камень, кокс). Паверхня і таўшчыня фільтруючага слою. Апісаньне змачваючай пабудовы.

4. Мэталёвыя (вісцынавыя) фільтры ці другія фільтры падобнага тыпу. Лік ячэек. Фільтруючы матарыял. Сумарная плошча фільтруючага слою і яго таўшчыня.

5. Рукаўныя фільтры (Мельбуд). Лік рукавоў. Дыямэтр і вышыня іх. Апроч пералічаных вестак пажадана даць агульнае апісаньне фільтраў з усімі яго характэрнымі асаблівасьцямі, а таксама паказаць, ці зьяўляецца фільтр усасваючым ці нагнятацельным.

в) Прамыўка

Разьмяшчэньне соплаў, лік іх і напор.

г) Цыклёны.

Тып цыклёну. Найбольшы знадворны дыямэтр. Дыямэтр выхлапной трубы.

*Форма № 1*

## Пашпарт №. . . .

Вэнтыляцыйнай установкі . . . . . . . . . . . . Аб'яднаньне

| | | |
|---|---|---|
| Прадпрыемства | | Аддзяленьне |
| | | Цэх |
| Агульныя зьвесткі аб вэнтыляцыйн. установцы | Хто склаў праект | Выканаўца праекта |
| | Калі пабудавана ўстаноўка | Кім і калі зацьверджан праект устаноўкі |
| | Кошт вэнтустаноўкі | Кошт эксплёатацыі ўстаноўкі ў год |
| | Каштоўнасьць выпускаемай прадукцыі ў год | |

Пералік сыстэм, уваходзячых у даную вэнтустаноўку.

| Чарговы нумар | Назва сыстэмы | Памяшканьні, што абслугоўваюцца сыстэмай вэнтыляцыі | Заўвагі |
|---|---|---|---|
| | | | |

**Апісаньне сыстэмы вэнтыляцыі і памяшканьняў, абслугоўваемых сыстэмай**

| Назва памяшканьня | | Па праекту | Пры складаньні пашпарту | Бягучыя зьмены | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Дата | Дата | Дата | Дата | Дата | Дата | Дата |
| | Род сыстэмы вэнтыляцыі ў памяшканьні | | | | | | | | | |
| | Кароткае апісаньне сыстэмы і яе прызначэньне | | | | | | | | | |
| | Лік рабочых па зьменах | | | | | | | | | |
| | Пералік рабочага абсталяваньня з вызначэньнем выдаткоўваемай моцнасьці | | | | | | | | | |
| | Крыніцы і характар выдзеленай шкоднасьці (у які момант працы выдзяляецца шкоднасьць) | | | | | | | | | |
| | Гадзіны дню, на працягу якіх вэнтустаноўка працуе | | | | | | | | | |

*Да дадатку № 1*
Форма № 2

# ПАШПАРТ №. . . .

Спэцыфікацыя асноўных элемэнтаў вэнтустаноўкі.

| № вэнтылятара па пашпарту | Тып і марка вэнтылятара | Фірма | Дыямэтр ротара у *мм* | Дыямэтр шківа | Тып і фірма | Моцнасьць у конск. сіл. | Род току | Напружанасьць | Лік зваротаў у мін. | Дыямэтр шківа ў *мм* | Даныя аб калёрыфэры | | Апісаньне прыстасаваньняў для абвільгочваньня паветра (асноўныя разьмеры) | Апісаньне прыстасаваньняў для ачысткі пылу (камэры для асяданьня пылу, фільтры, прамыўка, цыклёны), знадворнага і рэцыркуляцыйнага паветра | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | Тып калёрыфэра, яго апісаньне і асноўныя разьмеры | Паверхня нагрэву у кв. мэтрах | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | | | | | | | | | | | |

*Да дадатку № 1*
Форма № 3

# ВЫНЯТКА З АКТУ

. . . . . . . . . вэнтыляцыйнай устаноўкі, складзенага органамі працы

| Памяшканьне і месца выміраньня | Пэрыяд працы | Узровень | Тэмпэратура | | | Адносная вільготнасьць | Цеплаадача | | Рух паветра памяшканьня | Э. Э. т-ра | Характар пылу | Колькасьць пылу у мгр. на 1 кб. м. | Назва газаў | Колькасьць газаў у мгр. на літр | № вэнтылятараў па табл. № 2 | Даныя аб становішчы працы самой устаноўкі | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Знадворн. паветра | Памяшкан. па | | | Кататэрмомэтр | | | | | | | | | Прад. у км. | | | Патрабляе энэргіі і моцнасьць | Тр-а знадворнага паветра | Тр-а падаваемага паветра | Адносная вільгаць падаваем. паветра | Заўвагі, заключэньне |
| | | | | Сухой т-ры | Вільготнай т-ры | | Сухі Н | Вільготны Н | | | | | | | | Па праекту | Фактычная | Лік зваротаў у мінуту | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

Да дадатку № 1.
1 ая старонка

Завод . . . . . . . . . . . . . . . . . . . цэх (будынак) . . . . . . . .

Аддзяленьне . . . . . . . . . . . . . .

ЖУРНАЛ ЭКСПЛЁАТАЦЫІ ВЭНТУСТАНОЎКІ

Пашпарт № . . . . .

2-ая старонк а.

## ШТОМЕСЯЧНЫ ЭКСПЛЁАТАЦЫЙНЫ ЛІСТОК ВЭНТЫЛЯТАРА

Вэнтыляцыйная ўстаноўка, пашпарт № . . . . . .

а) Гадзіны сутак, на працягу якіх павінен працаваць вэнтылятар . .

б) Нармальная выдаткоўваемая моцнасьць . . . . . . . . . . .

в) Якія часткі сыстэмы павінны ачышчацца і ў якія тэрміны

| |
|---|
| Год |
| Месяц |
| |

г) Вымяральныя прыборы, іх нумар і месца, дзе знаходзяцца . . . .

| Дата | Час пуска у ход і выключэньне вэнтылятара (гадз і мінуты) | | Лік гадзін працы | Вытвар. запісу, ці вымараньняў, гадз. і мін. | Ампэрмэтр, ці вольтмэтр | Паказаньні тэрмомэтраў | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Перад калёрыфэр. | | За калёрыф. | | У памяшканьнях | | | | | | | |
| | Пуск | Выключ. | | | | Сухі | Вільготны | Сухі | Вільготны | | | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 1 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 5[1]) | | | | | | | | | | | | | | | | | |

[1]) і г. д. да 31 уключна.

5-ая старонка.

| Дата | Перапынкі ў працы ўсёй сыстэмы альбо яе паасобных частак (фільтры, увільгатненьні і інш.) у тыя гадзіны, калі ўстаноўка павінна знаходзіцца ў дзейнасці | Дата | Адзнакі аб нездавальняючым эфэкце працы паасобных частак сыстэмы і заўважаных непаладках | Адзнакі аб чыстцы паасобных частак сыстэмы | | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Дата | Якая частка сыстэмы падлягае чыстцы | |

Запаўняецца асобай, якая адказвае за працу вэнтустаноўкі.

6-ая старонка.

## ШТОМЕСЯЧНЫ ПАВЕРАЧНЫ ЛІСТОК ВЭНТЫЛЯЦЫЙНАЙ УСТАНОЎКІ.

Пашпарт № . . . . .

| Маючыяся з боку працаўнікоў данага цэху (будынка) заўвагі і скаргі на працу вэнтустаноўкі | Заключэньне прадстаўніка інспэкцыі працы аб стане вэнтустаноўкі і яе працы. Адзнакі аб перабудовах установкі | Запатрабаваньні да адміністрацыі па сутнасьці працы вэнустаноўкі з боку спэцінспэкцыі працы | Адзнакі прадстаўніка спэцінспэкцыі аб выкананьні прад'яўленых да адміністрацыі запатрабаван. |
|---|---|---|---|
| Запаўн. прац. цэху | Запаўняецца працаўнікам спэцінспэкцыі | | |
| | | | |

**Дадатак № 2**

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб эксплёатацыі вэнтыляцыйных установак на прадпрыемстве.

### І. Агульнае становішча.

1) Згодна пастановы НКП за 18 лістапада № 49 на кожным прадпрыемстве павінна быць распрацавана інструкцыя па эксплёатацыі усіх маючыхся старых альбо уноў пабудаваных вэнтыляцыйных установак.

2) Інструкцыя па эксплёатацыі пабудаваных установак распрацоўваецца арганізацыяй, якая пабудавала вэнтыляцыйную ўстаноўку.

3) Інструкцыя па эксплёатацыі вэнтустаноўкі павінна быць зацьверджана мясцовымі органамі працы.

4) Па прадпрыемствах, дзе ёсьць вэнтыляцыйныя ўстаноўкі, адказнасьць за іх дзейнічаньне ўскладаецца на загадчыка тэхнікі бясьпекі. У яго распараджэньні маецца адпаведная колькасьць рабочых для непасрэднага абслугоўваньня вэнтустановак.

5) На кожную вэнтустаноўку павінен быць заведзен пашпарт па зацьверджанай НКП форме для вучоту штодзённай працы вэнтылятараў.

6) У распараджэньні асобы, адказнай за дзейнічаньне вэнтустаноўкі, павінны знаходзіцца:

а) праекты вэнтустановак,

б) пашпарты паасобных вэнтустановак,

в) інструкцыі па эксплёатацыі вэнтустановак,

г) прыборы для кантролю і рэгуляваньня вэнтустановак, тэрмомэтры, псыхомэтры, анамомэтры, лічнік зваротаў, сякундамер.

7) Пасьля канчатковай вырэгуліроўкі вэнтыляцыйнай устаноўкі ўсе рэгуліруючыяся прыстасаваньні (засаўкі, кляпаны і інш.) павінны быць замацаваны нярухома, а калі гэта не магчыма, павінны быць зроблены паказчыкі становішча рэгуліруючых прыладаў для розных рэжымаў дзейнічаньня вэнтустановак.

8) Усякія зьмены вэнтыляцыйнага абсталяваньня і сталага рэжыму дзейнічаньня вэнтустаноўкі могуць быць зроблены толькі з ведама і дазволу органаў працы.

9) Усякія зьмены рэгуліроўкі вэнтустановак могуць быць зроблены толькі з ведама і дазволу асобы, што адказвае за дзейнічаньне вэнтыляцыі.

10) Усе паасобныя часткі вэнтыляцыйнай сыстэмы: прыёмнікі, трубаправоды, вэнтылятары, фільтры, увільгатніцелі павінны пэрыядычна ачышчацца.

У в а г а. Тэрміны пэрыядычнай ачысткі вэнтыляцыйных установак выпрацоўваюцца асобай, адказнай за дзейнічаньне вэнтыляцыйнай устаноўкі. Гэтыя тэрміны павінны быць адзначаны ў эксплёатацыйным журнале.

11) У выпадку пажару на прадпрыемстве усе вэнтыляцыйныя устаноўкі, якія знаходзяцца па прадпрыемстве, павінны быць неадкладна выключаны.

## II. Пуск і спыненьне вэнтыляцыйных установак.

1) Калі вэтыляцыйная устаноўка выкарыстоўваецца і для апалу, дык яна павінна быць пушчана ў ход да пачатку працы з разьлікам, каб да прыходу рабочых стварыць у памяшканьні патрэбную тэмпэратуру.

2) Разавыя вэнтустаноўкі павінны пускацца ў ход ня менш, як за 15 хвілін да пачатку працы і выключацца не раней, як праз 15 хвілін пасьля сканчэньня працы. У час абедзеннага перапынку вынтустаноўкі павінны працаваць без перапынку.

3) Вэнтустаноўкі для выдаленьня пылу павінны пускацца ў ход адначасова з пачаткам працы і выключацца праз 15 хвілін пасьля сканчэньня працы.

4) Вэнтустаноўкі для выдаленьня туману павінны пускацца ў ход адначасова з пачаткам працы і выключацца не раней як праз 15 хвілін пасьля сканчэньня працы. У час абедзеннага перапынку гэтая вэнтыляцыя павінна працаваць у тым выпадку, калі, ня гледзячы на спыненьне працы, маецца выдзяленьне пары ў памяшканьні.

5) Тэрмічныя вэнтустаноўкі павінны працаваць ад пачатку да сканчэньня працы; у час перапынку вэнтыляцыя таксама не павінна спыняцца.

6) Вэнтустаноўкі для агульнага абмену паветра павінны працаваць увесь час, пакуль у вэнтыліруемых рабочых памяшканьнях знаходзяцца людзі.

## III. Догляд па прыточнай сыстэмай вэнтыляцыі.

1) Паветразаборныя адтуліны павінны ўтрымлівацца так, каб выключыць магчымасьць пападаньня ў камэру сьнегу, пылу і інш.

2) Паветрапрыёмныя кляпаны альбо шыберы павінны быць ў час дзейнічаньня вэнтыляцыйнай сыстэмы адчынены поўнасцю альбо часткова ў залежнасьці ад знадворнай тэмпэратуры. Пры бязьдзейнічаньні вэнтыляцыі гэты кляпан альбо шыбер павінен быць зачынены таму, што паступленьне халоднага паветра можа выклікаць замярзаньне калёрыфэраў.

3) Камэры для асяданьня пылу і фільтры павінны пэрыядычна ачышчацца, а фільтры з матэрыі замяняюцца новымі.

4) Вадзяныя фільтры павінны зімой пушчацца ў дзейнічаньне толькі пасьля пуску ў рух калёрыфэраў, каб вадаправодныя трубы і разбрызгвальныя соплы ня лопнулі пры замярзаньні вады. Па той-жа прычыне неабходна пры астаноўцы вэнтыляцыйнай сыстэмы адчыніць краны для спуску вады з труб. Фільтр для спуску распыляемай вады павінен пэрыядычна прамывацца альбо фільтруючы матарыял трэба замяніць новым. Калі вызначаны фільтр адсутнічае, неабходна пэрыядычна ачышчаць разбрызгваючыя ваду соплы; пры гэтым галоўкі соплаў адвінчваюцца. Пры сыстэме з рэцыркуляцыяй вады рэзэрвуар папаўняецца перад пускам вэнтыляцыі і апаражняецца пасьля астаноўкі; разам з гэтым рэзэрвуар дасканала прамываецца.

Увага. Вада для прамыўкі павіна быць належнай якасьці і штодзённа зьмяняцца.

5) Мэталёвыя фільтра павінна пэрыядычна ачышчацца. Для змачваньня фільтраў трэба ужываць алей, які не замярзае пры нізкіх знадворных тэмпэратурах.

6) Пры паравых калёрыфэрах рэгуліроўка тэмпэратуры прыточнага паветра можа быць зроблена праз прыкрываньне вэнтылю на паравой трубцы, але ў тым толькі выпадку, калі знадворная тэмпэратура ня ніжэй 0°С. Калі знадворная тэмпэратура ніжэй 0°С, дык рэгуліроўка тэмпэратуры прыточнага паветра праз прыкрываньне вэнтылю на паравой трубцы не дапушчаецца таму, што кандэнсацыйная, вада замярзае ў сьценках прыбору і кандэнсацыйных труб, закупорвае і псуе іх. Рэгуліроўка тэмпэратура павінны ў гэтым выпадку

рабіцца пры дапамозе зьмешваючага кляпану, якія дае магчымасьць чыстае паветра прапушчаць не праз калёрыфэр.

Увага. Пры знадворнай тэмпэратуры вышэй 0°С дазваляецца рэгуліроўка тэмпэратуры прыточнага паветра праз выключэньне асобных сэкцый калёрыфэраў.

7) Калі вэнтустаноўка з калёрыфэрам першага і другога падагрэву і вадзяным фільтрам паміж імі, дык пры знадворнай тэмпэратуры ніжэй 0°С калёрыфэры першага падагрэву павінны быць пушчаны ў дзейнічаньне поўнасьцю. У адваротным выпадку паасобныя струмені непадагрэтае халоднае паветры могуць выклікаць разбурэньне вядзяных труб і разбрызгвальных соплаў вадзянога фільтру.

8) Кандэнсацыйныя казаны неабходна пэрыядычна аглядаць. Выключэньне іх робіцца спэцыяльна ўстаноўленымі вэнтыляцыямі, а кандэнсат прапускаецца па абходнай ветцы пры дзейнічаньні вэнтыляцыі.

9) Выключэньне паасобных сэкцый паравых калёрыфэраў робіцца зачыненьнем абодвых кляпанаў—па паравой і кандэнсацыйнай трубе.

10) Пры вадзяных калёрыфэрах рэгуляваньне тэмпэратуры прыточнага паветра ажыцьцяўляецца альбо рэгуляваньнем тэмпэратуры ў катле альбо ў ваданагравальніку, альбо пры дапамозе зьмешваючага кляпану для паветра, устаноўленага перад калёрыфэрам. Бязумоўна не дазваляецца пры знадворнай тэмпэратуры ніжэй 0°С рэгуляваць тэмпэратуру прыточнага паветра праз выключэньне паасобных сэкцый.

11) Цэнтрабежныя вэнтылятары павінны мець заборныя кляпаны на нагнетацельнай трубе каля выкладной адтуліны для памяншэньня колькасьці прыточнага паветра. Пры знадворнай тэмпэратуры ніжэй разьлічанай для поўнага аб'ёму вэнтыляцыі запорны кляпан часткова прычыняецца. На контуры вэнтылятару яркай фарбай павінна быць намалёвана стрэлка, паказваючая напрамак руху калёс вэнтылятара.

## IV. Нагляд за высмактваючай вэнтыляцыяй.

1) Усе высмактваючыя прыёмнікі (выцяжныя шафы, кажухі, футляры, варонкі, каўпакі) павінны заўсёды знаходзіцца ў спраўным становішчы і ўсялякія паломкі павінны неадкладна выпраўляцца.

2) Усе высмактваючыя прыёмнікі павінны заўсёды правільна працаваць. Высмактваючыя адтуліны нічым не павінны закупорвацца: прыёмнікі павінны быць правільна ўстаноўлены адпаведна вытворчай апярацыі.

3) За высмактваючымі трубаправодамі павінен быць сталы нагляд, каб у іх ня было мэханічных пашкоджаньняў. Для папярэджаньня праяданьня квасамі пражаўленых дэфармацый і інш., у мясцох фляндавых злучэньняў не павінна быць зазораў; у непасрэднай блізасьці ад высмактваючых адтулін эксгаўстэру пажадана мець зачыняючыяся люкі дастатковых памераў для абгляду ротара.

4) На кажуху кожнага эксгаўстэра яркай фарбай павінна быць намалявана стрэлка, паказваючая напрамак руху ротара.

5) Неабходна сачыць за тым, каб рухавыя часткі эксгаўстэра былі збалансіраваны так, каб ня было вібрацыі гудзеньня і магчымага разбурэньня эксгаўстэраў.

6) Неабходна сачыць за правільнай колькасьцю зваротаў эксгаўстэра і за спраўным становішчам прывадных прыладаў, рэмняў і муфт.

(Подпіс кіраўніка прадпрыемства).

Да дадатку 2.

### Абавязкі загадчыкаў тэхнікі бясьпекі ў галіне вэнтыляцыі.

1. Дэталёвае азнаямленьне з усімі часткамі абсталяваньня вэнтыляцыйнай установкі.
2. Адказваньне за наяўнасьць усіх праектных матарыялаў, пашпарта і інструкцыі па эксплёатацыі вэнтустановак.
3. Нагляд за бесьперапыннай працай вэнтустаноўкі.
4. Нагляд за становішчам усяго вэнтыляцыйнага абсталяваньня (матораў, трансмісій, мясцовых выцяжных вэнтылятараў і г. д.) і прыняцьце мер да іх своечасовага рамонту.
5. Нагляд за працай паасобных частак вэнтустаноўкі.
6. Нагляд за своечасовай чысткай трубаправодаў і паветраачышчальных прыстасаваньняў, пры чым тэрміны пэрыядычнай чысткі паказаных частак устанаўляюцца на падставе эксплёатацыйнага вопыту.
7. Праверка ўліку зваротаў вэнтылятараў, а таксама фактычнай хуткасьці ў прыёмных вэнтыляцыйных адтулінах, нагляд за правільнымі запісамі тэмпэратуры ў цэхах.
8. Выпрацоўка інструкцый для рабочых, якім даручан непасрэдны нагляд за вэнтустаноўкай, і кантроль за выкананьнем рабочымі гэтых інструкцый.
9. Догляд за правільным рэгуляваньнем нагрэву прыточнага паветра ў залежнасьці ад знадворных тэмпэратур.
10. Выяўленьне больш буйных недахопаў існуючай вэнтустаноўкі і паведамленьне аб іх да ведама адміністрацыі і інспэкцыі па ахове працы для ўжыцьця мер да іх зьнішчэньня.
11. Нагляд за правільным вядзеньнем журналу вэнтустаноўкі.

Да дадатку №2.

### Абавязкі рабочых по догляду за вэнтыляцыйнай установкай.

1. Сваечасовы пуск і астаноўка вэнтыляцыі.
2. Вырэгуліроўка вэнтыляцыі адпаведна знадворнай тэмпэратуры.
3. Кантроль за тэмпэратурай і вільготнасьцю ў памяшканьнях і адпаведная рэгуліроўка вэнтустаноўкі.
4. Астаноўка вэнтыляцыі або зьмена яе рэжыму.
5. Недапушчэньне замярзаньня паасобных частак (калёрыфэраў), вадаправодных труб, разбрызгваючых ваду соплаў, кандэнсацыйных труб і інш.).
6. Нагляд за становішчам рэмняў ад матору да вэнтылятараў, догляд за падшыпнікамі, змазваньне іх адпаведным маслам, сваечасовае паведамленьне заг. тэхнікі бесьпекі аб усіх няспраўнасьцях у маторах, вэнтылятарах, трубаправодах і інш. частках вэнтыляцыі, а таксама аб усіх скаргах рабочых на дэфэктыўнасьць вэнтыляцыі.

7. Прыбіраньне сьнегу каля знаходзячыхся нізка жалюзі, праз якія робіцца забор знадворнага паветра.

8. Чыстку фільтраў, забрызгваючых воду соплаў, трубаправодаў, кандэнсацыйных гаршкоў, пылапрыёмнікаў, газапаглынальнікаў і пылаадстойнікаў.

9. Вядзеньне эксплёатацыйнага журналу.

10. Прадстаўленьне рабочым эксплёатацыйнага журналу для запісаў у іх скаргаў на працу вэнтыляцыі.

## Пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 82. Па дакладу тав. Захаравай аб рабоце Кіраўніцтва ашчадкас і дзярж-. крэдыту і выкананьні дырэктыў па ўзмацненьні ашчадсправы ў БССР

Сыстэма ашчадкас БССР дала на працягу 1931 г. павялічэньне ўкладаў на 2.647 тыс. руб., астача ўкладаў дасягае па БССР на 1/X агульнай сумы ў 21.056,5 т. р., у тым ліку фізычных укладаў 14.469,1 т. р.; значна павялічылася кліентура ашчадкас, пры чым лік укладчыкаў (па даных на 1|VIII) вырас на 158.058 і складае на 1|VIII па БССР 599.755 укладчыкаў. Сетка ашчадкас пашырылася на 401 адзінку і складае на 1|X 1547 ашчадкас, з іх 1104 на вёсцы.

Побач з гэтым Калегія НКФ БССР канстатуе шэраг сур'ёзных прарываў у сыстэме ашчадкас па асноўных паказчыках:

Заданьне 1931 г. па фізычных укладах выканана на 1|X у разьмеры 31 проц., пры чым у III квартале прыліў укладаў складае толькі 12,8 проц. квартальнага заданьня. У галіне пазыкі „3-га рашаючага году пяцігодкі“ рэалізацыя выражаецца ўсяго ў 94,2 проц. заданьня па БССР. Пры гэтым заданьне сярод калгасьнікаў поўнасьцю нявыканана (97,7 проц.), а па аднаасобніках—29,4 проц. Значнае адставаньне маецца ў галіне афармленьня пазыкі. На 1|X па групе рабочых і служачых аформлена ўзносамі 92,6 проц., па калгасьніках—51,2 проц. У лік заяўленай аднаасобнікамі падпіскі грашовыя паступленьні складаюць толькі 62 проц.

Нездавальняючыя вынікі маюцца і па іншых галінах працы ашчадкас; плян асабовага страхаваньня (па зьвестках 52-х раёнаў) выкананы ўсяго на 55 проц.; слаба разьвіваюцца безнаяўныя разьлікі па масавых плацяжох насельніцтва.

Пры слабым выкананьні пляну пашырэньня сеткі ашчадкас (50,6 проц.) амаль палова адчыненых ашчадкас зьяўляюцца касамі ніжэйшага тыпу, касавым абслугоўваньнем ахоплена ўсяго 150 бюджэтаў с|саветаў.

Вынікам прарываў у выкананьні заданьняў ашчадкас зьяўляецца вельмі высокая каштоўнасьць апарацый і апарату.

Першыя 2 дэкады кастрычніка пры некаторым палепшаньні ў галіне рэалізацыі пазыкі (па калгасьніках 99,3 проц., па аднаасобніках 32,6 проц.) і афармленьне падпіскі (9,17 проц. па БССР, 96,8—па гораду і 61,4—па сельскаму сэктару) у галіне ўкладаў ніякага пералому не дасягнута, а, наадварот, маецца нават адліў у суме 83 т. р.

Асноўнымі прычынамі прарыву зьяўляюцца:

а) слабасьць ашчаднага апарату і яго асноўнага зьвяна-рай-

ашчадкас, ня стаўшых яшчэ ў большасьці раёнаў арганізатарамі ашчаднай справы і дзяржкрэдыту,

б) вельмі **нездавальняючае** становішча з **кадрамі** ў сыстэме ашчадкас: неадпаведнасьць свайму прызначэньню значнай часткі загадчыкаў райкас (у 4-х раёнах загадчыкаў зусім няма), інспэктарскі склад у большасьці ня мае вопыту і належнай падрыхтоўкі, пры чым у 13 раёнах пасады інспэктароў зусім не замешчаны. У 9 райашчадкасах адсутнічаюць бухгальтары, і амаль у палове раёнаў бухгальтары падлягаюць **замене**.

**Якасьць падрыхтоўкі** выпушчаных курсантаў **нездавальняючая**, пры чым кантынгэнт набору па свайму ўзросту і агульнаму разьвіцьцю ў большасьці **не адпавядаючы**. Гэта зьяўляецца прычынай **нізкай кваліфікацыі** большасьці працаўнікоў райашчадкас, асабліва сельскіх.

Адсутнасьць **сыстэматычнай масавай працы** па ашчадсправе і слабая ўвязка яе з агульнай культмасавай працай, правадзімай сярод працоўнага насельніцтва ў горадзе і на вёсцы, а таксама праца большасьці ашчадкас **на самацёк**.

**Абслугоўваньне** ашчадкасамі працоўных мас укладчыкаў нездавальняючае, несваечасовае выкананьне даручэньняў кліентуры, наяўнасьць фактаў бюракратызму і цяганіны ў асобных касах.

Разам з гэтым Калегія адзначае наступныя недахопы ў працы Кіраўніцтва АК і ДК: адсутнасьць **дыфэрэнцыяванага** кіраваньня раёнамі і вучоту, слабы нагляд за **выкананьнем мясцамі** дырэктыў партыйных і савецкіх органаў і самога Кіраўніцтва. Асабліва падкрэсьліць слабае выкананьне ў БССР пастаноў СНК СССР за 1|II і СНК БССР за 3|III і пастановы аб'яднанай Калегіі НКФ і НКПіТ па пытаньні працы паштовых ашчадкас.

Адначасова Калегія канстатуе, што адсутнасьць нагляду з боку большасьці саветаў над працай ашчадкас і практычнай дапамогі ім, шматлікія факты **мабілізацыі работнікаў** ашчадкас на іншыя кампаніі (Жыткавічы, Смалявічы, Карма, Краснапольле, Лельчыцы, Крупкі і інш.) **адмоўна** адбіваюцца на працы ашчадкас.

У мэтах рашучай перабудовы і актывізацыі працы ашчадкас, як важнейшага фактару фінпляну, launch пературэньня ашчадкас у сапраўдную масавую крэдытную арганізацыю і забясьпечаньня поўнага выкананьня плянаў, Калегія НКФ п а с т а н а ў л я е:

1. Кіраўніцтву Ашчадкасамі і Дзяржкрэдыту:

а) прыняць самыя рашучыя захады да ўзмацненьня і палепшаньня працы ўсёй сыстэмы ашчадкас і ліквідацыі адзначаных прарываў у месячны тэрмін;

б) палепшыць кіраваньне раёнамі і перайсьці ў двухдэкадны тэрмін на сыстэму **дыфэрэнцыяванага** кіраваньня пэрыфэрыяй, увязаўшы канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтай галіне з Арг.-Інспэктарскім сэктарам;

в) узмацніць жывую сувязь і інструктаж раёнаў, асабліва адстаючых, прыняўшы захады да ўмацаваньня складу інспэктароў і падняцьця іх кваліфікацыі;

г) устанавіць дакладны вучот ходу працы ў асобных раёнах і гарадох, стала вывучаючы ўжываемыя на мясцох формы і мэтады працы, з мэтай перанясеньня лепшых прыкладаў на іншыя раёны.

2. Рашуча ўзмацніць **агіт.-масавую працу па ашчадсправе**, устанавіўшы штодзённую сувязь з профсаюзнымі, камсамольскімі і добраахвотнымі арганізацыямі, і увязваць сваю працу з ўсімі **правадзімымі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі**.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на палепшаньне інструктажу камсодаў і грамадзкіх інструктароў з боку райфа і ашчадкас і ажыўленьне іх працы, а таксама стварэньне вакол ашчадкас **сталага грамадзкага актыву**.

3. Абавязаць Кіраўніцтва Ашчадкасамі і Дзяржкрэдыту БССР, загадчыкаў райфа і райашчадкас ужыць рэальныя меры да **палепшаньня абслугоўваньня** ўкладчыкаў і пазыкатрымальнікаў зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на спрашчэньне працы і рацыяналізацыі тэхнікі.

Арганізаваць да 1|І-31 г. **паказальныя касы** абавязкова ў кожным раёне і буйных гарадзкіх цэнтрах, дабіўшыся прыкладнай пастаноўкі працы і абслугоўваньня працоўных у гэтых касах і распаўсюджваньня іх вопыту на іншыя раёны.

Кіраўніцтву АК і ДК у дэкадны тэрмін даць паказаньні мясцом аб вопытных касах.

4. Улічваючы важнае значэньне максымальнага **набліжэньня** ашчадкас да працоўнага насельніцтва, Кіраўніцтву АК і ДК і загадчыкам райфа ў дэкадны тэрмін прыняць усе захады да выкананьня пляну разгортваньня сеткі на 1931 год.

Разгарнуць працу па ахопу **сэзонных рабочых лесараспрацовак** і іншых, арганізуючы на буйных сэзонных работах ашчадныя касы і прымацоўваючы больш дробныя сэзонныя работы да бліжэйшых ашчадкас.

Пры разгортваньні сеткі ашчадкас зьвярнуць асаблівую ўвагу на адчыненьне ашчадкас па сацыялістычнаму сэктару вёскі, зрабіўшы іх апорнымі пунктамі ва ўсёй працы на вёсцы. На працягу IV кварталу арганізаваць ня менш **10 паказальных ашчадкас** у буйных калгасах звыш пляну.

Побач з мерапрыемствамі па разгортваньні сеткі прыняць захады да актывізацыі і падняцьця рэнтабельнасьці існуючай і забясьпечыць да 1|І-31 г. арганізацыю касавага абслугоўваньня ня менш $^1/_3$ сельскіх бюджэтаў.

5. Прасіць **Белкалгасцэнтр** прыняць рэальныя захады да забесьпячаньня спрыяючых умоў для працы ашчадкас у калгасах, сыстэматычна правяраючы выкананьне дадзеных у галіне ашчадсправы і дзяржкрэдыту па калгаснай сыстэме дырэктыў.

6. Зьвярнуць увагу Беларускага Кіраўніцтва Сувязі на недастаткова актыўную працу большасьці ашчадкас **пры паштовых установах** з просьбай прыняць захады да арганізацыі пры ўсіх паштовых установах ашчадных кас і палепшаньня працы ўсіх існуючых ашчадкас. Лічыць неабходным у лістападзе заслухаць на Калегіі НКФ да-

клад Начальніка Беларускага Кіраўніцтва Сувязі аб мерапрыемствах па разьвіцьці ашчадсправы.

7. Улічваючы вялізарнае значэньне правадзімай па БССР фінэстафэты, абавязаць кіраўніцтва АК і ДК зараз-жа праверыць выкананьне сыстэмай ашчадкас дадзеных дырэктыў і паказаньняў.

Даручыць Кіраўніцтву АК і ДК вывучыць вопыт правадзімай эстафэты і наладзіць у райкасах поўны вучот усіх мерапрыемстваў з тым, каб забясьпечыць іх арганізацыйнае замацаваньне.

8. Сэктару кадраў, пэрсанальна тав. Варушыла, у дэкадны тэрмін пераглядзець існуючую сетку курсаў і распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы патрэбных для сыстэмы ашчадкас працаўнікоў, і прадставіць спэцыяльны даклад па гэтаму пытаньні. Дабіцца безадкладнага звароту на ашчадную працу ўсіх асоб, скончыўшых у гэтым годзе курсы па ашчадсправе.

9. Перавесьці не пазьней 1/I-32 г. гор—райашчадкасы на сапраўдны гаспадарчы разьлік, а таксама перавесьці частку апарату Кіраўніцтва АК і ДК, праца якой падаецца вучоту, на зьдзельную аплату.

Абавязаць т. Захараву ў месячны тэрмін падаць на зацьверджаньне Калегіі дакладна распрацаваны праект і мерапрыемствы па ўвядзеньні ў сыстэме ашчадкас гаспадарчага разьліку.

10. Улічваючы адставаньне ставак работнікаў сыстэмы ашчадкас ад ставак іншых фінансава-крэдытных устаноў і з мэтай палепшаньня матарыяльных умоў і барацьбы з цякучасьцю ў ашчадным апараце, лічыць неабходным падвысіць існуючыя стаўкі. Даручыць т. Захаравай у пяцідзённы тэрмін падаць на зацьверджаньне Наркому Фінансаў і Наркампрацы праект дыфэрэнцыяваных ставак работнікам ашчадапарату як цэнтральнага, так і нізавога.

Адначасова ўзьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб палепшаньні матарыяльна-бытавых умоў працаўнікоў сыстэмы ашчадкас.

11. Даручыць Кіраўніцтву АК і ДК у двухдэкадны тэрмін распрацаваць канкрэтны плян шырокага масавага паходу за ашчадсправу ў БССР па прыкладу іншых саюзных рэспублік.

12. Абавязаць Сэктар выкананьня, пэрсанальна тав. Лонскага, устанавіць спэцыяльны нагляд за выкананьнем гэтай і іншых дырэктыў і пастаноў па ўзмацненьні ашчадсправы ў БССР.

Народны Камісар Фінансаў БССР **А. Хацкевіч.**

25 кастрычніка 1931 г.

## 82. Аб разгортваньні сеткі ашчадных кас.

Заслухаўшы даклад тав. Захаравай, Калегія НКФ адзначае, што плян пашырэньня сеткі ашчадкас па БССР па становішчу на 1/XI-31 г. выканан толькі ў разьмеры 79,6 проц. гадавога заданьня, што зьяўляецца зусім нездавальняючым і што пры перавыкананьні шэрагам

раёнаў вызначанага пляну, асобныя раёны разгортваюць сетку ашчадкас недапусьціма маруднымі тэмпамі.

У Бягомльскім раёне адчынена ўсяго 3 касы замест 9, прадугледжаных па пляну, у Горацкім—2 касы, замест 13, у Лёзьнянскім раёне не адчынена ні аднае касы, у Мазырскім раёне адчынена адна замест 16.

Адсутнасьць разгорнутай сеткі у памянёных раёнах зьяўляецца аднэй з асноўных прычын прарываў у галіне рэалізацыі пазыкі і прыцягненьня ўкладаў (рэалізацыя пазыкі па сельскаму сэктару складае: у Бягомльскім раёне 23 проц. заданьня, Горацкім—50 проц. заданьня, Лёзьнянскім—53 проц. заданьня і Мазырскім—30 проц. заданьня; па фызічных укладах—ад Бягомльскага і Лёзьнянскага раёнаў зусім зьвестак няма, а па Горацкаму раёну заданьне на кастрычнік выканана у разьмеры 37,5 проц.).

Выходзячы з вышэй адзначанага, за невыкананьне пастановы СНК БССР за 3/III-31 г. і дырэктыў НКФ і Кіраўніцтва АК і ДК па пытаньні разгортваньня сеткі Калегія НКФ БССР пастанаўляе:

1. Абвясьціць загадчыкам райфа і райашчадкас Бягомльскага, Горацкага, Лёзьнянскага і Мазырскага раёнаў вымову, з папярэджаньнем іх, што ў выпадку невыкананьня імі да 1/XII пляну пашырэньня сеткі, віноўныя будуць прыцягнуты да судовай адказнасьці.

2. Прапанаваць усім загадчыкам райфа і райашчадкас неадкладна прыняць усе захады да разгортваньня сеткі і забясьпечаньня ў бліжэйшыя дні поўнага выкананьня пляну, зьвярнуўшы асаблівую увагу на ахоп ашчадкасамі сельсаветаў і буйных саўгасаў, калгасаў і МТС.

3. Загадчыкам райфа і райашчадкас пераглядзець усю існуючую сетку ашчадкас у напрамку палепшаньня іх працы, актывізацыі вакол іх грамадзкасьці і ператварэньня часткі ашчадкас у касы вышэйшага тыпу (агэнцтвы першага разраду у прыпісныя касы).

Рашуча добівацца поўнага ажыцьцяўленьня пастаноў Калегіі НКФ і партыйна-савецкіх дырэктыў па ашчадсправе наогул і у прыватнасьці паставіць на працу у ашчадкасах асоб, скончыўшых курсы ашчадсправы.

5. Даручыць т. Захаравай і сэктару кадраў у бліжэйшыя дні замяніць за бязьдзейнасьць кіраўнікоў райашчадкас Мазырскага раёну т. Гафта і Лёзьнянскага—тав. Славіта, вызначыўшы лепшых моцных працаўнікоў, а таксама падаць сьпіс перадавых ударнікаў ашчадсправы для прэміяваньня.

Народны Камісар Фінансаў БССР **А. Хацкевіч.**

12 лістапада 1931 г.

**84. Па дакладу Бюджэтна-Плянавага сэктара НКФ БССР пра кан‘юнктурны агляд выкананьня адзінага фінпляну БССР за III квартал.**

Заслухаўшы даклад Бюджэтна-Плянавага Сэктару пра кан‘юнкрупны агляд выкананьня адзінага фінпляну БССР за III квартал, калегія НКФ БССР канстатуе, што:

а) бюджэт III кварталу недавыканан па прыбытках—на 5 проц., па выдатках—на 10 проц., з прычыны недабору непадатковых даходаў (па прамысловасьці і дзяржпазыках) і слабых тэмпаў будаўніцтва; пры гэтым плян адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў перавышан;

б) у сыстэме Дзяржбанку дрэнна пастаўлена справаздача па бюджэту, з якой прычыны ня робяцца ў свой час розныя адлічэньні ў дзяржаўны і мясцовы бюджэт;

в) падмацаваньні касы Дзяржбанку з эмісійнага фонду перавысілі ліміт на 40,9 проц., з-за недабору даходнай часткі каспляну;

г) пры параўнальна лепшым асваеньні ведамствамі новага парадку крэдытаваньня, скарыстаньне крэдытных лімітаў яшчэ перавышае ступень выкананьня вытворчых плянаў, што паказвае на недастатковы кантроль рублём;

д) пры нарастаньні пратэрмінованай запазычанасьці калгасаў (2,4 м. р. на 1|X) наглядаецца зусім слабае скарыстаньне калгассыстэмай крэдытных лімітаў—38 проц. квартпляну;

е) побач з недавыкананьнем даходнай часткі крэдытпляну Белкамунбанку (50 проц.), маючыяся крэдыты скарыстоўваюцца зусім слаба (42,5 проц.);

ж) у выніку недавыкананьня вытворчай праграмы III кварталу прамысловасьць ВСНГ і НКСнаба не дадала значныя сумы адлічэньняў у дзяржбюджэт;

з) спажыўкапярацыя недавыканала плян тавараздвароту пры аднавіўшымся працэсе затаварваньня і пры наліччы шэрагу ненармальнасьцяй у частцы розьнічных цэн.

Выходзячы з паказанага вышэй, Калегія Наркамфіну БССР пастанаўляе:

1) бюджэтна-плянаваму сэктару больш строга зьвязаць фінансаваньне паасобных галін народнай гаспадаркі з выкананьнем абавязкаў перад бюджэтам;

2) усім сэктарам захоўваць самую строгую эканомію ў водпуску сродкаў, асабліва на адм.-гаспадарчыя выдаткі;

3) Белканторы Дзяржбанку безадкладна ўпарадкаваць справаздачнасьць філіялаў;

4) т. Фельдману ў дэкадны тэрмін сваім распараджэньнем унесьці яснасьць у лічбы выкананьня і астачы на бягучым рахунку дзяржбюджэту;

5) з прычыны разыходжаньняў у лічбах Дзяржбанку, Сэктару масавых плацяжоў і Кіраўніцтва Ашчадкас па ўкладанакапленьнях ашчадсыстэмы,—паказаным установам распрацаваць аднолькавыя і дакладныя мэтады вучоту ўкладанакапленьняў і зьнішчыць разнагалосьсе;

6) Дзяржбанку даць паказаньні філіялам пра спагнаньне пратэрмінаванай запазычанасьці і пра ўзмацненьне скарыстаньня крэдытных лімітаў калгассыстэмамі;

7) сэктару прамысловасьці і тавараздвароту абсьледваць прычыны недабору ў III квартале колькасных і якасных паказчыкаў па прамысловасьці і далажыць вынікі абсьледваньня ў дэкадны тэрмін;

8) адзначаючы ненармальнае становішча справы вызначэньня розьнічных цэн, даручыць сэктару прамысловасьці і таваразвароту правесьці ў лістападзе абсьледваньне таваразвароту па спажывецкай, сельска-гаспадарчай, саматужна-прамысловай капярацыі і Белгандлі; вынікі далажыць Калегіі ў канцы лістапада; ад Белкапсаюза патрабаваць рашучых крокаў да ліквідацыі аднавіўшагася затаварваньня;

9) Бюджэтна-Плянаваму Сэктару ў лістападзе абсьледваць крэдытовую дзейнасьць Белкамунбанку за 1931 г. і вынікі, з дакладам Белкамунбанку, заслухаць ў сьнежані;

10) Сэктару выкананьня узяць пад спэцыяльны кантроль выкананьне гэтае пастановы і прадставіць Калегіі садаклад па кожнаму пункту пастановы пры дакладзе аб выніках выкананьня.

Народны Камісар Фінансаў БССР **А. Хацкевіч.**

12 лістапада 1931 г.

Адказны Рэдактар **С. Лодысёў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 763—5200

